www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 50 (3791)

28 чэрвеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Пацярпелыя ад выбуху чакаюць суда над Арынічам

*Жыхары Пінска даўно чакаюць суда над былым кіраўніком "Пінскдрэва", у час кіраўніцтва якога адбыўся выбух, што забраў жыцці 14 чалавек.*

На гэтым тыдні збеглага Ларана Арыніча затрымалі ў Італіі па лініі Інтэрпола. Пра гэта паведаміў намеснік Генеральнага пракурора Беларусі **Аляксей Стук.**

Адзін з пацярпелых рабочых Алег Смірноў даведаўся аб затрыманні Ларана Арыніча ад журналістаў: "Я ўпершыню ад вас пра гэта чую... Я лічу, што яго, вядома ж, мусяць пакараць. Ён зрабіў непрыгожы ўчынак у адносінах да родных загінуўшых людзей. Яму трэба было інакш сябе весці, і былі б іншыя да яго адносіны... А так, хацелася б, каб хоць як пакаралі", — зазначае ён.

Спадар Смірноў у выніку выбуху на "Пінскдрэве" атрымаў моцныя апёкі і стаў інвалідам другой групы. Рабочаму зрабілі некалькі пластычных аперацый на твары, але ён кажа, што давядзецца рабіць яшчэ. У выніку інваліднасці Алег Смірноў страціў працаздольнасць і цяпер больш займаецца лячэннем.

Былы рабочы кажа, што будзе сачыць за далейшым лёсам Ларана Арыніча і, калі яго вернуць у Беларусь, пойдзе на суд над былым дырэктарам.

Выбух на прадпрыемстве "Пінскдрэў" адбыўся 25 кастрычніка 2010 года. Два чалавекі загінулі адразу, яшчэ 12 памерлі ў бальніцах. Пяць чалавек сталі інвалідамі.

Траіх асоб з кіраўніцтва прадпрыемства асудзілі на 3—4 гады пазбаўлення волі і ўмоўны тэрмін. Кіраўнік холдынга "Пінскдрэў" Ларан Арыніч у час следства збег за мяжу. У 2012 годзе яго затрымалі ў Польшчы і накіравалі пад нагляд паліцыі, потым меру стрымання замянілі на заклад. Але Ларан Арыніч збег з-пад закладу.

ПРАТЭСТ

# Дэмарш прадпрымальнікаў

*Як карэспандэнт "Народнай Волі" наведаў забастоўку прадпрымальнікаў і чаму пасля гэтага апынуўся ў міліцыі.*





Учора на рынках і ў гандлёвых цэнтрах Беларусі прайшла аднадзённая забастоўка прадпрымальнікаў, якія выступаюць супраць увядзення з 1 ліпеня патрабаванняў тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза "Аб бяспецы лёгкай прамысловасці".

Рашэнне правесці папераджальную забастоўку прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнесу прынялі 24 чэрвеня ў Мінску на форуме прадпрымальнікаў, арганізаваным РГА "Перспектыва".

...**27 чэрвеня. 10.00.** На рынак "Ждановічы" пад'язджаю ў гэты час, калі і пачынаюць працаваць прадпрымальнікі. "Свет моды-5". Павільёны, якія гандлююць адзеннем і абуткам, зачынены. Нейкія тры цёткі прасвятляюць мяне, што сёння я наўрад ці што тут куплю. Забастоўка.

— А Таісія з адміністрацыі рынку ходзіць і перапісвае ўсіх, хто не выйшаў на працу, — па сакрэце кажа адна з іх. — Кажуць, што спісы затым перададуць у райвыканкам. Хоць што тут перапісваць? Усе ж не працуюць.

Ад саміх прадпрымальнікаў, якія сабраліся на рынку, даведваюся, што некаторыя не пайшлі на працу, але засталіся дома. Прыйшлі, як кажуць, *"самыя неабыякавыя".*

— Вось гэтая сертыфікацыя якасці тавараў лёгкай прамысловасці, якую плануюць увесці, яна проста паралізуе нашу работу, — распавядаюць мне. — На кожную майку, кожныя трусы зараз патрэбны сертыфікат. А ў нас жа дробны гандаль. Вось, напрыклад, купіла я на продаж дзве майкі, а адну мне трэба аддаць на экспертызу, і яе не вернуць. А ёсць жа і верхняе адзенне, якое дорага каштуе. Аддай адзінку тавара за 100 долараў проста так. Каб мы буйным оптам працавалі — іншая справа.

— А тэрміны?! — уключаюцца ў размову іншыя. — Не менш за месяц трэба рабіць дакументы. Калі тады прадаваць сезонны тавар? Што, яны сертыфікат за дзень зробяць? Ды і цана за гэтую паслугу проста атамная. Мы закупляем тавар на рынках у Маскве, няхай бы там і выдавалі гэтыя сертыфікаты.

**10.30.** Слова бярэ старшыня РГА "Перспектыва" Анатоль Шумчанка. Прадпрымальнікаў сабралася некалькі соцень чалавек. Не так і шмат, калі ўлічваць, колькі чалавек не выйшлі на работу.

Шумчанка распавядае: маўляў, з'явілася інфармацыя, што Міністэрства гандлю пайшло на саступкі, дазволіўшы прадпрымальнікам працаваць па старой схеме яшчэ год. Але ніхто афіцыйных дакументаў з гэтай нагоды не бачыў. Няма ніякіх гарантый.

— Якія разумныя патрабаванні з нашага боку вылучаюцца? — задаюць пытанне Шумчанку.

— Самае разумнае — гэта ўвядзенне мараторыя на праверкі, — адказвае той. — Таму што ў вас сертыфікатаў няма і наўрад ці будуць. Сёння-заўтра з боку ўлад абавязкова будзе рэакцыя, з намі будуць лічыцца...

Па словах старшыні "Перспектывы", у гэты ж дзень ён збіраецца правесці ля Міністэрства эканомікі прэс-канферэнцыю і пагутарыць з чыноўнікамі, каб данесці ім сваю пазіцыю.

Тым часам на прыступках у суправаджэнні кіраўніцтва рынку з'яўляецца чыноўніца з Адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска — начальнік аддзела гандлю і паслуг Наталля Хмяльніцкая, якая заклікае ўсіх да дыялогу:

— Давайце ў наступны аўторак у 10 гадзін раніцы сустрэнемся з прадстаўнікамі адміністрацыі раёна, дэпартамента па сертыфікацыі... У які час вам зручна?

— Ідзіце на свае рабочыя месцы, працуйце, не губляйце грошы, — прасілі чыноўнікі.

— Не-е-е! — неслася ў адказ.

— Я ж пакупнік, прыйшоў на рынак тавар купіць, а вы не працуеце, — заходзіў з другога боку іншы чыноўнік.

— "Сэканд-хэнд" не бастуе, там і купляйце, — не лезлі за словам у кішэню прадпрымальнікі.

У выніку Наталля Хмяльніцкая сышла ў будынак павільёна і ўжо там камусьці распавядала па тэлефоне: "Яны, можа, і гатовы да дыялогу, каб не Шумчанка. Ваду баламуціць, прадпрымальнікі крычаць і нічога не хочуць слухаць".

Але праз пэўны час эмоцыі сціхаюць, і чыноўніцу зноў выклікаюць на размову. І бакі дамаўляюцца — не трэба адкладваць справу, а сустрэчу трэба правесці 28 чэрвеня ў 10.00 на гэтым жа месцы. Прадпрымальнікі могуць задаць самыя балючыя пытанні, а чыноўнікі на іх паспрабуюць адказаць. Пасля чаго прадстаўнікі малога бізнесу пачнуць работу.

На гэтым, уласна кажучы, і разышліся, хоць быў і працяг гісторыі.

Пасля заканчэння мерапрыемства да Анатоля Шумчанкі падышоў намеснік начальніка Цэнтральнага РУУС і папрасіў прайсці "на размову". Лідар "Перспектывы" адмовіўся. Маўляў, неабходна яшчэ на іншых рынках пабываць. Карэспандэнты "Народнай Волі", Радыё Свабода і інтэрнэт-партала tut.by паехалі на машыне разам з Анатолем Шумчанкам на "Паркінг", што ля Камароўскага рынку.

Заязджаем на чацвёрты паверх "Паркінга", заходзім у ліфт... і тут як тут — маладыя людзі ў цывільным.

**12.00.** Шумчанку адразу ж кажуць: маўляў, ён затрыманы па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства. Ім займаюцца асобна, некуды вядуць. Нашы журналісцкія пасведчанні нікога не цікавяць. Просяць пачакаць, праз нейкі час суправаджаюць у мікрааўтобус.

Хлопцы, якія нас "бралі", ветлівыя. Кажуць, што з АМАПу. Цікавяцца па дарозе заробкамі журналістаў, жартуюць, але мабільнымі тэлефонамі просяць не карыстацца. Вязуць у Савецкі РУУС, аднак пасля тэлефоннага званка нашаму "экскурсаводу" машына разварочваецца і накіроўваецца ўжо ў бок Цэнтральнага РУУС. Навошта? За што? Ніхто не адказвае.

У Цэнтральным РУУС нас усіх разводзяць па розных кабінетах, у мяне забіраюць дакументы. Інспектар, да якога завялі ў кабінет і які бесперапынна штосьці пісаў, і наогул толькі хвілін праз пяць, калі я загаварыў пра неабходнасць рамонту ў памяшканні, здзівіўся: "А ты, уласна кажучы, хто такі? І як сюды трапіў?"

Амапаўцы таксама нават не ведаюць, хто такі Шумчанка і што там адбывалася на рынку. А сітуацыю, што склалася, пракаментавалі коратка:

— Замест таго, каб злачынцаў лавіць, мы тут хернёй займаемся.

Каля гадзіны даводзіцца сядзець у кабінеце, пакуль мяне "прабіваюць па базе". У рэшце рэшт прыходзіць нейкі начальнік і кажа інспектару: "Праз некалькі хвілін правядзеш журналіста на вуліцу".

**13.30.** Інспектар так і робіць. На развітанне цісне руку і дадае: "Каб у вас засталіся добрыя ўспаміны, вось вам каляндарык на памяць". На каляндарыку напісана: "Слёзы толькі ад цыбулі. Бясплатная гарачая лінія для пацярпелых ад дамашняга гвалту".

Амаль у адзін час выпусцілі ўсіх журналістаў. Шумчанка застаўся ў РУУС, там жа стаяла і яго машына. Пяць гадоў таму, калі лідар "Перспектывы" арганізоўваў страйкі прадпрымальнікаў, яго пасадзілі на 15 сутак...

**Алесь СІВЫ.**

### ТЫМ ЧАСАМ

*Як паведаміў журналістам кіраўнік аналітычнага цэнтра Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва **Анатоль Змітровіч,** забастоўкі праходзілі ў Магілёве, Гомелі, Полацку, Касцюковічах і Баранавічах. У Мінску закрыты як мінімум нехарчовыя рады рынку "Ждановічы" і ГЦ "Паркінг".*

*Па яго словах, у сталіцы і рэгіёнах у дзень забастоўкі 27 чэрвеня на рынках і ў гандлёвых цэнтрах на выйшлі на работу каля 70 працэнтаў прадпрымальнікаў.*

### КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

*Анатоль Шумчанка асуджаны да пяці сутак адміністрацыйнага арышту. Па якім артыкуле — не вядома. Пра гэта паведаміла жонка Анатоля Вольга.*

ДАТА

## Это много или мало?

Стоимость праздничного парада ко Дню Независимости составляет 0,2% всех расходов Минобороны в год.

Об этом в четверг на пресс-конференции сообщил начальник управления информации, пресс-секретарь главного управления идеологической работы Министерства обороны **Владимир Макаров.**

*"Стоимость парада на фоне всех наших расходов, а мы живем в условиях строжайшей экономии, составляет менее 0,2% всех расходов, выделяемых на военное ведомство, Вооруженные силы в год. Поэтому попытки обвинить нашу страну или ведомство якобы в демонстрации силы и расходах средств — это ложь и провокация. День Независимости — это сакральный символ, и парад в этот день был, есть и будет",* — сказал Владимир Макаров.

А как вы считаете, прав ли главный армейский идеолог?

СЛЫШАЛИ?

## Российская авиабаза будет дислоцироваться в Лиде

Авиабаза в Беларуси у границы с Польшей и Литвой начнет функционировать уже через несколько месяцев.

Россия выбрала место под свою авиабазу. Она будет расположена в городе Лиде у границы с Польшей и Литвой, сообщает РИА "Новости".

*"Создание российской авиабазы в Беларуси — это результат выполнения межправительственного соглашения об укреплении военной составляющей Союзного государства",* — рассказал главком ВВС РФ генерал-лейтенант Виктор Бондарев. Она станет важным элементом первого стратегического эшелона обороны Союзного государства и обеспечит прикрытие воздушного пространства Беларуси.

Планируется, что сначала на базе будут размещены модифицированные истребители Су-27СМ3. *"Потом посмотрим, что из этого получится, и примем окончательное решение",* — объявил генерал-лейтенант.

Аэродром "Лида" содержит почти все необходимое для авиабазы, на нем не придется возводить новые объекты, поэтому база начнет функционировать уже через несколько месяцев. Обустраивать базу будет белорусская сторона.

РЕЗОНАНС

## Минобороны Литвы: В политическом смысле авиабаза в Лиде — недобрососедский шаг

Создание российской авиабазы в белорусском городе Лиде у литовской границы в политическом смысле не является демонстрацией доброй воли со стороны России и Беларуси, заявляют в Минобороны Литвы.

Как сообщили агентству BNS в Министерстве обороны, в Вильнюсе знают о планах Москвы учредить авиабазу в Беларуси, граничащей с государствами—членами НАТО. По информации оборонного ведомства, самолеты белорусских ВВС постоянно дислоцировались на этой базе, а российские могли на нее прилетать и находиться неограниченное время.

*"Поэтому в военном смысле это не создает дополнительной угрозы. В политическом смысле это, конечно, не является демонстрацией взаимного доверия и добрососедской воли ни со стороны России, ни со стороны Беларуси",* — говорится в представленном BNS ответе Минобороны Литвы.

*"Министерство обороны считает, что Беларусь не является враждебным государством, что является независимым государством и у него есть право самому решать, разрешить или нет основание военных баз другого государства на своей территории",* — заявляют в военном ведомстве Литвы.

ДАСЛОЎНА



"Пластмасавае вядро — з Расіі, малаток — альбо кітайскі, альбо польскі, граблі — румынскія. Такія магутныя станказаводы, а кранштэйны для мацавання мікрахвалёўкі да сцяны — іспанскія... Трэба зрабіць усё для таго, каб разгрузіць базы. Зніжкі, бонусы, нейкія латарэі, прасоўванне тавараў і гэтак далей, аж да таго, што карабейнікаў пускайце па мікрараёнах, вязіце людзям і прадавайце".

**Міхаіл МЯСНІКОВІЧ, старшыня Савета міністраў.**

ДЫПКУР'ЕР

## Пасольства Ізраіля страйкуе

Пасольства Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь даводзіць да ведама ўсіх зацікаўленых асоб, што з 24 чэрвеня 2013 года спыняе аказанне консульскіх паслуг грамадзянам. Такое афіцыйнае паведамленне прыйшло ў "Народную Волю" ў чацвер. Прычынай страйку з'яўляецца працоўны канфлікт, які пачаўся тры месяцы таму, — гаворыцца ў паведамленні.

Прафсаюз работнікаў МЗС Ізраіля спрабуе дамагчыся павелічэння зарплаты, паляпшэння ўмоў службы ізраільскіх дыпламатаў за мяжой, а таксама структурных змяненняў у самім міністэрстве. Паколькі Міністэрства фінансаў Ізраіля не распачало ніякіх мер па задавальненні патрабаванняў, з 24 чэрвеня прафсаюз работнікаў МЗС перайшоў да больш рашучых дзеянняў. Такім чынам, з 24 чэрвеня Пасольствам Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь, як і ўсімі ізраільскімі пасольствамі па ўсім свеце, спынена аказанне консульскіх паслуг грамадзянам. Выключэнне складаюць экстранныя выпадкі, калі вырашаюцца пытанні жыцця і смерці. Што тычыцца грамадзян, якія звярнуліся ў пасольства напярэдадні спынення абслугоўвання па консульскіх пытаннях, то супрацоўнікі Консульскага аддзела загадзя апавясцілі іх аб сітуацыі, якая склалася, і прапанавалі забраць дакументы.

Пасольства Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь прыносіць свае прабачэнні за прычыненыя нязручнасці.

SOS!

# «Напэўна, пражавелі не толькі трубы, але і мазгі ў нашых камунальшчыкаў...»

*Ужо каля дзесяці гадоў мінчанін Барыс Уладзіміравіч Старыкевіч даводзіць да мясцовых камунальшчыкаў, што ў іх доме пасля дажджу затапляе падвал. Але словы ідуць, як вада ў пясок...*





Барыс Уладзіміравіч жыве ў доме №6 па вуліцы Чарвякова разам з жонкай. Каля дзесяці гадоў ён спрабуе дастукацца да камунальшчыкаў. Пакуль усе спробы безвыніковыя. І чалавек звярнуўся ў рэдакцыю "Народнай Волі" ледзь не са слязьмі на вачах...

— Як толькі пройдзе дождж, у нашым доме — бяда, — распавядае ён. — Ёсць, натуральна, водаадводная труба, якая выходзіць на вуліцу, але яна, напэўна, недзе ўнутры пражавела, а таму вада і льецца ў падвал пасля чарговага ліўня. Калі ідзе дождж, а ты ў гэты час падымаешся на ліфце, нават чутно, як недзе за сценкай цурчыць уніз вада. А там у людзей боксы, дзе захоўваюцца нейкія рэчы, бульба... Вада ў падвале надоўга не затрымліваецца, сыходзіць у зямлю за паўгадзіны, але ж хіба гэта нармальная сітуацыя?

Барыс Уладзіміравіч ладзіць мне экскурсію ў падвал і паказвае:

— Вось дзірка ў сцяне, адсюль і затапляе. На столь паглядзіце, там плямы да гэтага часу. У пад'ездзе таксама каля лесвіцы трэба было ў ботах хадзіць. Я сам інжынер-будаўнік, крыху разбіраюся. Вада ж у зямлю пад сцены, пад фундамент ідзе, гэта ж небяспечна. Але нікому няма аніякай справы. А што тут было, калі снег пачаў таяць! Такія ж снегапады былі, усё пайшло ў падвал...

Па словах Барыса Уладзіміравіча, ён пастаянна звяртаецца ў ЖЭС-38, да якога і адносіцца дом, але там абмяжоўваюцца толькі тым, што выслухоўваюць. Альбо "камандзіруюць" сантэхніка.

— Той прыйдзе, паглядзіць і кажа: "Я перадам начальству". На гэтым усё! А начальства ў ЖЭСе, напэўна, мяняецца, як пальчаткі. Іншы раз прыйдзеш — ужо новы чалавек. І ён ужо нічога пра праблему не ведае. Я ім кажу: "Вы запішыце куды-небудзь маю скаргу, каб новы кіраўнік ведаў пра яе, а я да вас не цягаўся б пасля кожнага дажджу". Але, напэўна, пражавелі не толькі трубы, але і мазгі ў нашых камунальшчыкаў. 39 гадоў дому, ні разу капітальнага рамонту не было. Дзе гэта бачна?! Нікому не патрэбныя лядовыя палацы будуюць, розныя шыкоўныя фэсты арганізоўваюць, а на звычайны рамонт для звычайных людзей грошай няма? Мне проста сорамна за такую ўладу! Вось шчыра вам скажу — проста сорамна...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### АФІЦЫЙНА

*"Народная Воля" звярнулася да начальніка ЖЭС-38 Аляксея БАТУРЫ з просьбай пракаментаваць сітуацыю.*

— Што датычыцца капітальнага рамонту дома №6 па вуліцы Чарвякова, то ў гэтым годзе яго дакладна не будзе, — кажа суразмоўца. — Дом пабудаваны ў 1974 годзе, а ў мяне стаяць дамы 1947 г., якія яшчэ не дачакаліся капрамонту. Вось і ўся сітуацыя!

**— А па плане і нарматывах праз колькі гадоў камунальшчыкі абавязаны рабіць капітальны рамонт?**

— Па планах?.. Гэта ж справа такая... Нашы планы расцягваюцца...

**— І ўсё ж-такі — праз колькі гадоў неабходны капрамонт?**

— Гэта ўсё залежыць ад тэрміну эксплуатацыі розных канструкцый. У кожнай канструкцыі ёсць свой тэрмін эксплуатацыі.

**— Вось жыхары і кажуць, што згнілі канструкцыі ў іх доме, а вада каторы год падвал затапляе...**

— Калі затапляе — праверым. Калі ёсць пытанні — вырашым. Мы ж робім бягучы рамонт. Ці вы думаеце, што мы нічога не робім?..

**P.S.** *Напрыканцы гутаркі Аляксей Вячаслававіч яшчэ раз паабяцаў, што праблема будзе вырашана. Паверым на слова. Але праз нейкі час да гэтай тэмы "Народная Воля" абавязкова вернецца. Як кажуць: давярай, але правярай.*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Прысуд Гайдукову будзе агучаны 1 ліпеня*

Разгляд "шпіёнскай справы" адбываецца ў закрытым рэжыме, таму дагэтуль невядома, ці зменена абвінавачанне актывісту і якое пакаранне запрасіў пракурор.

Аднак стала вядома, што прысуд Андрэю Гайдукову агучаць 1 ліпеня ў 11.00. Агалошванне прысуду адбудзецца ў адкрытым рэжыме.

23-гадовага актывіста з Наваполацка абвінавачваюць паводле двух артыкулаў: часткі 1 артыкула 14 — "Замах на злачынства" і часткі 1 артыкула 356 — "Здрада дзяржаве". 19 чэрвеня старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Валерый Вакульчык заявіў пра тое, што ў дачыненні да Гайдукова можа быць зменены артыкул, паводле якога хлопца абвінавачвалі ад пачатку.

Родныя і сябры не вераць у тое, што Гайдукоў мог займацца шпіянажам, яны тлумачаць ціск з боку КДБ апазіцыйнымі поглядамі хлопца і яго імкненнем стварыць у Наваполацку міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Саюз маладых інтэлектуалаў".

СТАЛІЦА

## *Паўночны пасёлак захаваецца*

Пра перспектывы развіцця сядзібнай забудовы ў Заводскім раёне сталіцы распавёў Мінгарвыканкам.

Як паведамляе агенцтва "Мінскнавіны", да 2020 года плануюць знесці прыватныя дамы ў Аўтазаводскім пасёлку (вуліцы Чалюскінцаў — Амельянюка — Пржэвальскага — Лазо — Катоўскага і іншыя), сядзібы на вуліцах Карзюкі і Чырвоная Слабада. А вось Паўночны пасёлак амаль цалкам захаваецца, адзінкавыя будынкі на гэтай тэрыторыі запланаваны да перспектыўнага зносу толькі пад пашырэнне вуліц Байкальскай і Несцерава.

У асноўным на месцы сядзіб будзе пабудавана шматкватэрнае жыллё, заказчыкамі якога вызначаны УКБ раённай адміністрацыі і ДВА "Мінскбуд". Аднак назваць больш дакладную дату пераўтварэнняў гэтых тэрыторый сёння немагчыма. У інвестыцыйную праграму горада яны пакуль не ўвайшлі.

Пасля 2020 года ў Заводскім раёне пад знос могуць пайсці сядзібы паміж вуліцамі Галадзеда і Убарэвіча. Такая ж доля чакае дамы, размешчаныя ў межах вуліцы Чалюскінцаў і няцотнага боку вуліцы Радыяльнай. У будучыні там прадугледжваецца не жылая забудова, а ўзвядзенне паркінгаў, адміністрацыйна-дзелавых комплексаў. Зносу падлягае і частка сядзіб на вуліцы Шчотаўка.

СОТРУДНИЧЕСТВО

# Мы покупаем в Польше мясо, поляки у нас — нефтепродукты

*Не секрет, что отношения между официальным Минском и Варшавой уже несколько лет не самые лучшие. Но политический контекст не мешает экономическому сотрудничеству. Польша остается одним из главных торговых партнеров Беларуси.*



Уже несколько лет товарооборот между нашими странами составляет порядка 2 млрд долларов, в 2008 году он вообще почти достиг рекордных 3 миллиардов. Польша занимает 5-е место в белорусском импорте и 7-е — в экспорте. Больше, чем в Польшу, мы продаем свои товары в Россию и Украину, а из стран ЕС — в Нидерланды, Латвию и Литву.

Все эти данные были озвучены во время конференции "Польская экономика в 2012 г. и прогноз на 2013 г", организованной отделом содействия торговле и инвестициям Посольства Польши в Беларуси.

Структура товарооборота между странами за последние годы практически не изменилась. Польша традиционно закупает у нас нефтепродукты, калийные удобрения, древесину, а поставляет в нашу страну свинину, фрукты, лекарства. Например, что касается импортных яблок и груш, замороженных овощей, то до 80% этих продуктов на нашем рынке — из Польши. 82% импортных детских колясок на белорусском рынке также польского производства. А польские корма для животных составляют почти 90% в структуре всего импорта.

Наиболее динамично в последние годы мы закупали в Польше жиры, масла животного и растительного происхождения, изделия из кожи, обувь, стекло, а также изделия из камня, гипса, цемента и керамические изделия.

*— Мы рады отметить, что в последнее время наблюдается рост поставок технологических линий и оборудования для модернизации белорусских предприятий,* — отметил руководитель отдела содействия торговле и инвестициям Посольства Польши в Беларуси **Веслав Покладэк**. *— Думаю, что благодаря соотношению цена—качество Беларусь будет хорошим рынком для наших товаров.*

Говоря о перспективах товарооборота между Польшей и Беларусью, Веслав Покладэк отметил, что не видит опасений для белорусско-польского сотрудничества на фоне регламентов Таможенного союза. *"Думаю, что регламенты будут способствовать развитию наших торговых взаимоотношений. Конечно, как в любом процессе, сначала будут определенные проблемы, препоны, но потом, когда регламенты будут определены, все уладится, и в будущем будет прогресс".*

Что касается планов на этот год, по мнению Веслава Покладэка, есть все основания предполагать, что товарооборот между нашими странами сохранится на уровне 2012 года — 2,3 млрд долларов. *"Если мы достигнем 2,5 миллиарда — будет отлично",* — резюмировал руководитель отдела содействия торговле и инвестициям Посольства Польши в Беларуси.

### НА ЗАМЕТКУ

## *Топ-5 успешных польских фирм в Беларуси*

Сегодня в Беларуси работает более 500 предприятий с польским капиталом. В прошлом году среди стран-инвесторов Польша заняла 12-е место, вложив в белорусскую экономику 126,8 млн долларов. Однако, как отмечает Веслав Покладэк, с 2010 года число польских предприятий в Беларуси уменьшается.

Отрасли, наиболее интересные для польского бизнеса в Беларуси, — мебельная, мясная, торговля, транспорт и сельское хозяйство.

Есть предприятия, которые весьма успешно работают на территории Беларуси уже не один год.

**ТОП-5 самых крупных и успешных польских фирм-инвесторов выглядит так:**

| Название фирмы | Год создания | Вид деятельности |
|---|---|---|
| 1.ИП "ИНКО-ФУД" | 2001 | Мясная промышленность |
| 2.ИП "Черный Красный Белый" | 2000 | Производство плиты МДФ и мебели |
| 3.СБПП "В-М и Ко" | 1993 | Неспециализированная оптовая торговля непродовольственными товарами |
| 4.ПТ ООО "Тайфун" | 2009 | Производство сухих бетонных смесей |
| 5.ИООО "ВОКС" | 2002 | Производство изделий из пластмасс — сайдинга. |

### К СЛОВУ

## Без потерь

Известный белорусский экономист, профессор **Станислав Богданкевич** не раз говорил: в 1990—1991 годах, когда мы становились независимыми, Беларусь и Польша стартовали с практически одинаковых позиций: менталитет, полезные ископаемые, географическое положение и т.д. А, например, что касается ВВП, то поляки по сравнению с нами были в худшей ситуации по валовому продукту на душу населения.

Сегодня, спустя 22 года, мы вынуждены признать: уровень жизни поляков гораздо выше, чем белорусов. И дело даже не в том, что их средняя зарплата и пенсия выше наших более чем в 2 раза (согласно последним данным, средняя зарплата в Польше — 1200 долларов, средняя пенсия — около 600 долларов), а цены и ставки по кредитам ниже. И даже если бензин, алкоголь и квартплата обходятся полякам дороже, все равно за свои пенсии и зарплаты они могут позволить себе гораздо больше, чем белорусы. Есть другой, более существенный аргумент, говорящий о том, что 22 года назад Польша не прогадала, выбрав свой путь развития в условиях свободного рынка.

20 лет подряд Польше удается удерживаться на пути экономического роста. Стоимость самого валового внутреннего продукта с 1995 года увеличилась в 5 раз! Даже в кризисный для всей Европы 2009 год Польша единственная из стран Центральной и Восточной Европы смогла сохранить рост ВВП. Пусть не на очень высоком уровне — 1,6% (например, в 2008 году рост ВВП Польши составил 5,1%, в 2007 —- 6,8%), но все же рост. Потому что в 2009 году экономики других наших соседок из числа стран ЕС были в катастрофической ситуации: ВВП Литвы — минус 14,8%, ВВП Латвии — минус 17,7! Вообще, в тот год Польша была единственной из стран Центральной и Восточной Европы, которая вышла из кризиса без экономических потерь.

Сегодня поляки жалуются, что жить стало труднее. Тем не менее стране удавалось удерживать ВВП на уровне 4,5% в 2011-м и 1,9% — в 2012 году. При этом уровень инфляции 3,7%.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

З-ЗА КРАТАЎ

# А яны пакутуюць...

Сваякі **Зміцера Дашкевіча** спадзяюцца, што ён у жніўні будзе дома.

Жонка палітвязня **Наста Дашкевіч (Палажанка)** паведаміла, што ёй ужо тэлефанавалі з міліцыі Першамайскага раёна сталіцы і цікавіліся, ці не супраць гаспадары кватэры, каб Зміцер пасля вызвалення жыў разам з імі. Наста лічыць, што гэта ніякім чынам не звязана з тым, што палітвязня адпусцяць раней пазначанага тэрміну. Але званок з міліцыі расцэньвае як добры знак.

*— Я так зразумела, што ў турме рыхтуюцца вызваліць Зміцера. Ён павінен выйсці на волю праз два месяцы. Але для мяне гэта добры знак, бо званок з міліцыі сведчыць аб тым, што нейкіх правакацый не будзе і мой муж не застанецца там на нейкі дадатковы тэрмін пакарання. Магчыма, Дзіму хочуць паставіць на ўлік ці ўжыць да яго нагляд. Тым больш што тэлефанаваў мне інспектар, які адказвае за нагляд. Высвятляў, ці сапраўды Дзіма будзе жыць па гэтым адрасе*, — сказала Наста Дашкевіч.

Жонка **Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч** паведаміла, што не атрымала ад мужа тры лісты запар. З гэтага яна робіць выснову, што ў яго зноў праблемы з ліставаннем. Пакуль не вядома, ці сапраўды палітвязню абмежавалі доступ да карэспандэнцыі, а калі гэта так, то па якіх прычынах.

*— Апошні ліст я атрымала 10 чэрвеня,* — распавяла спадарыня Марына. *— Мікола піша мне два разы на тыдзень. Я павінна была атрымаць лісты 13, 17 і 20 чэрвеня. Але нічога, ніякіх вестак.*

Па словах Марыны Адамовіч, зараз за кратамі асабліва цяжкі перыяд.

*— Пачалося лета, а гэта самы галодны час,* — гаворыць яна. *— Цяпер там амаль няма ніякай садавіны і гародніны. Раней там была хаця б старая бульба, вараная ці квашаная капуста. Цяпер толькі розныя кашы, калі гэта можна назваць кашамі. А сядзець яшчэ ж тры з паловай гады.*

Бацькі сябра Зміцера Дашкевіча **Эдуарда Лобава** мелі з ім спатканне. Дзве гадзіны яны маглі бачыцца праз шкло і размаўляць з сынам праз тэлефонны апарат. **Марына Лобава** расказала, што сын выглядае бадзёрым і знаходзіцца ў добрай фізічнай форме.

*— Асаблівых навін няма,* — кажа маці палітвязня. *— Нарэшце яму залячылі зуб. І то добра. Апошнім часам у яго ўсё больш-менш спакойна. Але мы ж разумеем, што ўсё гэта можа змяніцца ў адзін момант.*

Эдуард Лобаў мусіць выйсці на волю праз паўтара года.

У адрозненне ад іншых палітвязняў **Ігару Аліневічу** пашчасціла мець так званае доўгатэрміновае спатканне са сваімі бацькамі. Яны наведалі сына на мінулых выхадных. **Валянціна Аліневіч** падзялілася з "Народнай Воляй" сваімі ўражаннямі ад сустрэчы:

*— Мне падалося, што Ігар стаў вышэй. Можа, падрос? Ці гэта я стала ўжо ніжэй, стапталася? Ён стаў больш дарослым. У калоніі даволі жорсткі дагляд. Ігару здаецца, што людзей, якія з ім маюць нейкія стасункі, даглядаюць больш пільна. Парадаксальная сітуацыя — Ігар ніколі не ўжываў алкаголю, я ўжо не кажу пра наркотыкі, а асноўны кантынгент там, куды ён патрапіў, якраз складаецца з былых выпівох і наркаманаў. Але ён па-філасофску ставіцца да гэтага. Тыя лісты, якія яму даслалі бабруйскія актывісты з заклікам напісаць просьбу аб памілаванні, ён парваў. Сказаў, што лічыць такія рэчы подласцю. Ён сказаў, што людзі, якія здзейснілі беззаконне, павінны несці гэты крыж да канца. У нас з ім нават не было ніякіх размоў наконт памілавання, а вось пра палітыку мы шмат размаўлялі. Ён сказаў, што нашы ўнутраныя адносіны павінны заставацца паміж намі. Гэта не для агульнага абмеркавання. Ён даволі сціплы чалавек. Што да ліставання, то віншаванне з днём нараджэння я сёлета атрымала дзень у дзень. Лісты з Расіі да яго даходзяць праз большы час, чым з Беларусі, а з Еўропы яшчэ больш трэба чакаць. Вось некаторыя людзі пішуць, што не ведаюць, пра што пісаць. А ён кажа, што яму цікава ўсё, нават нейкія бытавыя дробязі. Ігар сказаў, што там людзі пачынаюць шмат чытаць, бо гэта нейкім чынам пашырае гарызонты. Там жа няма ніякай інфармацыі, і гэта ратуе людзей.*

У адрозненне ад Ігара Аліневіча **Алесь Бяляцкі** цяпер не можа прэтэндаваць на спатканне. Але ў жніўні яму "свеціць" кароткачасовае спатканне. Пакуль жа жонка палітвязня непакоіцца, што ў рацыёне яе мужа бракуе гародніны і ягад. Паплечніца Бяляцкага **Таццяна Рэвяка** дадала, што навін пакуль ніякіх няма — усё застаецца паранейшаму: Алесь працуе. Работа складаецца з таго, што ён пакуе кальсоны. Колькі гэта будзе працягвацца — невядома.

**Любоў ЛУНЁВА.**

МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ!

## *29 чэрвеня пункты пропуску на беларуска-расійска-ўкраінскай мяжы будуць закрыты*

Гэта звязана са святкаваннем Дня моладзі на стыку трох граніц.

З 7.00 да 20.00 29 чэрвеня ў пунктах пропуску "Весялоўка", "Новыя Юркавічы" і "Сінькоўка" пропуск асоб і транспартных сродкаў праз Дзяржаўную мяжу ажыццяўляцца не будзе.

— Грамадзяне, якія жадаюць у гэты час перасекчы мяжу, могуць скарыстацца пунктамі пропуску "Новая Гута" або "Камарын", — паведаміў прэс-сакратар Гомельскай пагранічнай групы Дзмітрый Уклейка. — Рэкамендуем жыхарам Гомеля і Гомельскага раёна накіроўвацца ў пункты спрошчанага пропуску "Паддабранка", "Глыбоцкае" і "Андрэеўка". Грамадзяне, якія пражываюць у цэнтральных і паўночных рэгіёнах Беларусі, павінны арыентавацца на Мазырскі напрамак — пункты пропуску "Новая Рудня", "Аляксандраўка", "Глушкевічы".

ХЛЕБ НАДЗЁННЫ

# Паход за прадуктамі — справа небяспечная

*Кожны другі рынак не адпавядае гігіенічным нормам і патрабаванням*

*Пакуль беларусы пільна ўглядаюцца ў свае талеркі, баючыся знайсці там афрыканскую свіную чуму, гігіеністы і гандляры раяць звярнуць увагу на іншыя прадукты — смяротная пагроза можа хавацца і ва ўчарашнім кефіры.*

Сёння ў Беларусі існуе 392 рынкі. На адных мы набываем танныя вопратку, абутак, бытавыя рэчы, на іншых — ежу, на трэціх — то і другое... Між тым, згодна са статыстыкай, 62% рынкаў Беларусі працуюць з парушэннямі гігіенічных нормаў. І калі на рэчавых рынках такая нядбайнасць можа скончыцца прапановай няякасных тавараў, то хібы харчовых рынкаў могуць абысціся кліентам вельмі дорага.

Не трэба панікаваць — зафіксаваныя парушэнні гігіенічных нормаў не заўжды сведчаць аб тым, што пакупнікам жадаюць "уцюхаць" сапсаваны ці няякасны тавар. Прэтэнзіі ў спецыялістаў часцей узнікаюць да тэхнічнага абсталявання гандлёвай кропкі, адсутнасці ўсіх патрэбных дакументаў, знешняга выгляду гандляроў.

Якімі б уражальнымі ні былі лічбы, але перад тым, як трапіць на прылаўкі, прадукты праходзяць ажно 12 лабараторных тэстаў. У тым ліку мяса правяраюць на афрыканскую чуму, успышка якой зафіксавана ў Гродзенскай вобласці. Дарэчы, генеральны дырэктар Камароўскага рынку **Мікалай Хмяльніцкі** зазначыў, што пакуль свініна карыстаецца не меншым попытам, чым некалькі тыдняў таму. Пэўны спад ёсць, але ён сезонны — летам гараджане пераходзяць на гародніну.

Між тым расслабляцца не варта. Загадчыца аддзялення гігіены харчавання Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Міністэрства аховы здароўя **Вія Шукевіч** раіць на рынку быць пільнымі і ўважліва прыглядацца да таго, што вы збіраецеся з'есці.

*"Кожны пакупнік у стане вызначыць, працуе халадзільнік ці не,* — каментуе Вія Анатольеўна. — *Варта паглядзець і на ўпакоўку — там заўжды адзначаны тэрміны прыдатнасці і рэжым захоўвання. Калі на каўбасе пазначана "захоўваць пры тэмпературы ад 2 да 5 градусаў", а халадзільнік не працуе, такі прадукт набываць не трэба".*

Калі пільнае пакупніцкае вока зафіксавала парушэнне, не варта праходзіць міма ці абмяжоўвацца крытычным каментарыем у бок гандляра. Невыкананне санітарных і гігіенічных нормаў не трывае паўмер — звяртайцеся да адміністрацыі ці выклікайце санстанцыю!

Паход у краму — таксама справа не вельмі бяспечная. Тэмпературны рэжым, правілы і тэрміны захоўвання могуць парушаць і ў крамах.

Але больш за ўсё спецыяліст засцерагла ад пакупак у "мабільных" гандляроў. Нярэдка на вуліцах можна сустрэць машыны з рэгіянальнымі нумарамі, з якіх па нізкіх коштах гандлююць садавінай, гароднінай і нават мясам. Спецыяліст цэнтра гігіены просіць не пакупацца на нізкія кошты, бо хутчэй за ўсё такія стыхійныя гандляры дакументаў не маюць. Нават калі яны і ёсць, дзе гарантыя, што прадукты захоўваліся і перавозіліся з выкананнем усіх правілаў і нормаў?

### Чым харчавацца ў адпачынку

*Каб не сапсаваць сабе летні адпачынак, варта выконваць пэўныя правілы, якімі з чытачамі "Народнай Волі" падзялілася загадчыца аддзялення гігіены харчавання Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Міністэрства аховы здароўя* ***Вія Шукевіч.***

### Што нельга браць з сабою

Каўбасы і малочную прадукцыю, якія патрабуюць нізкай тэмпературы захоўвання, не лепшая кампанія для падарожжа. Тое ж тычыцца і гатовай ежы — у душным купэ смажаная курачка пражыве нядоўга, так што лепш пакінуць разнасолы дома.

### Чам харчавацца ў дарозе

Сваю ўвагу варта скіраваць на прадукты, якія не патрабуюць спецыфічных умоў захоўвання. Напрыклад, хлябцы, свежая садавіна і гародніна.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

